



Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

8 снежня 2000 года
№ 49 (294)
Цана ў розніцу 102 рублі

TV плюс


## Навіны рэгіёна

### Колькасць інфіцыраваных СНІДам узрастае

МАЛАДЗЕЧНА. Урач–эпідэміёлаг раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Маргарыта Працко** канстатуе, што ў Маладзечанскім раёне колькасць ВІЧ-інфіцыраваных павялічылася з 3 да 27. У Маладзечне колькасць інфіцыраваных – 6. У Беларусі зафіксавана 3190 інфіцыраваных вірусам СНІДу, 27 з якіх з'яўляюцца хворымі. 80% з першай лічбы прыходзіцца на Гомельскую вобласць, 10% на Мінск, 10% размеркаваліся па розных абласцях. У Мінскай вобласці 81 чалавек інфіцыраваны страшнай хваробай. Хвароба абірае, у асноўным, людзей ад 15 да 29 год. У 136 інфіцыраваных нарадзіліся дзеці, з якіх 18 атрымалі інфекцыю ад бацькоў.

Алесь РАЛАВЕЦ.

### Трэці герб на Валожыншчыне

ВАЛОЖЫН. У панядзелак беларуская геральдычная служба вынесла на абмеркаванне мясцовых жыхароў праект герба Ракава.
На чырвоным полі варажскага шчыта знаходзіцца графская карона, а пад ёй лацінская літара "R". Гэта будзе трэці герб у Валожынскія раёне. Ракаў далучыцца да Валожына і Івянца. На чарзе стаяць Пяршаі.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### «Спадарожнік» пералічыў грошы

МАЛАДЗЕЧНА. Сёння былыя работнікі "Спадарожніка", якія летам у маладзечанскім судзе даказалі, што іх незаконна звольнілі, могуць атрымаць грашовую кампенсацыю.
Нагадаем, у калектыўным іску зазначана 19 прозвішчаў. "Спадарожнік" ім вінен 5 мільёнаў 383 тысячы рублёў. Першую частку ў 500 тысяч адміністрацыя завода пералічыла на дэпазітны рахунак суда ў пятніцу, астатнія – у панядзелак.
Але на гэтым справа можа не завяршыцца, бо работнікі могуць напісаць заявы аб індэксацыі грашовых выплат. Тады наперадзе яшчэ судовыя пасяджэнні.

Аддзел інфармацыі "РГ".

### «Каханай жанчыне» даюць толькі золата

МЯДЗЕЛ. У Маскве праходзіў чацверты міжнародны прафесійны конкурс вінаў. З медалямі адтуль вярнулася прадукцыя Ілаўскага плодакансервавага завода.
Віно "Ілаўскія світанкі" атрымала сярэбраны, а "Каханай жанчыне" – залаты медаль.
За апошнія гады ілаўская прадукцыя вызначаецца за межамі Беларусі не ў першы раз. Была "бронза" за "Ілаўскія світанкі" на конкурсе ў Ялце.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Новая старая радыёкропка

СМАРГОНЬ. На заводзе аптычнага станкабудавання пасля пяцігадовага перапынку загаварыла сваё радыё.
15-хвілінная перадача пакуль выходзіць раз на тыдзень. На заводзе ўзнавілі рэтрансляцыйную сетку, адрамантавалі апаратуру. Падабраны дыктар, радыёмеханік.
У перспектыве час вяшчання будзе пашыраны.

Павел МАКЛЮК.



**Адмена электрычак**

8 снежня
Адпраўленнем 13.41; 14.35, прыбыццём 12.58; 14.44

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 9 снежня**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мінск | -5 – 0°C (уначы) 2 – 4°C (удзень) | Вільня | 0°C (уначы) 5°C (удзень) |

**Нядзеля, 10 снежня**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мінск | -2 – -1°C (уначы) 0 – 1°C (удзень) | Вільня | -4°C (уначы) 2°C (удзень) |

# Першы конкурс сярод фотамастакоў

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 фатографаў бралі ўдзел у конкурсе, які праходзіў упершыню. 1 снежня любы жадаючы мог паглядзець на работы, выстаўленыя ў Доме культуры чыгуначнікаў.**

Мясцовы гарвыканкам, які з'яўляўся арганізатарам конкурсу, устанавіў дзве асноўныя намінацыі: "Мужчынскі партрэт" і "Жаночы партрэт".

Аргкамітэт адзначыў па тры лепшыя здымкі. У намінацыі "Мужчынскі партрэт" перамог **Мікалай Баран**, другое месца заняў здымак **Алега Баштавенкі** і **Андрэя Каскіна**, трэцім стаў **Аляксандр Русак**.

Жанчын лепш адлюстравалі **Ірына Костачка**, **Яўген Стэльмах** і Мікалай Баран.

Былі дадатковыя намінацыі: "Дзіцячы партрэт", "Сямейны партрэт" і "Пейзаж". У першых дзвюх перамог Яўген Стэльмах, у трэцяй – Ірына Костачка.

Пераможцы адзначаныя дыпломамі і сувенірамі. Мэтай правядзення крнкурсу, згодна з рашэннем гарвыканкома, было "ўдасканаленне прафесійнага майстэрства па аказанні бытавых паслуг, павышэнне іх якасці".

Аднак з першым конкурсам ледзь не атрымаўся канфуз. Згодна з першай рэдакцыяй рашэння гарвыканкома, усе здымкі пераходзілі ў распараджэнне аргкамітэта. Але потым, усё ж, вырашылі вярнуць іх аўтарам.

Юрый КАРПІЦКІ.


Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.
Дзяўчынка Аліса прынесла перамогу аўтару здымка ў намінацыі «Дзіцячы партрэт».

Экспрэс–апытанне віляйчан

## Аб чым вы сёлета пашкадавалі?


**Васіль Сляпцоў, дырэктар СШ №6:**
– Шкадую, што ў Палату прадстаўнікоў не прайшоў наш кандыдат **Канстанцін Іваноў**. Маркую, ён мог зрабіць карыснае для горада, раёна і нашай школы.


**Алена Альфер, інспектар дзяржпажнагляду:**
– Планы сёлета першы канала: дачку аддала замуж, нарадзіўся ўнук, атрымала "зорачку" капітана. Шкадую толькі аб тым, што людзі гінуць на пажарах.


**Святлана Бяргаліна, намеснік дырэктара СШ №6:**
– Не паспела закупіць беларускія нацыянальныя касцюмы для сваіх вучняў. А навагоднія падарункі ўнукам, думаю, паспею падрыхтаваць.


**Андрэй Сацук, сталяр-станочнік:**
– Я не паспеў завесці сям'ю.

Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.

■ КОНКУРСЫ

## Вызначыліся лепшыя цырульнікі...

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні ў Доме культуры чыгуначнікаў адбыўся гарадскі конкурс па цырульніцкім майстэрстве. Арганізатарам, як і летась, выступіў гарвыканком.**

У першай намінацыі "Жаночыя прычоскі" ўдзельнічала 14 майстроў. Лепшымі сталі **Ірына Фаміна** ("Слава"), **Наталля Шкваркова** ("Чайка") і **Іна Раманоўская** ("Валянціна").

Мужчынскіх майстроў было трое, але заахвоцілі ўсіх. Перамагла **Святлана Давыдава** ("Веста").

Яна і Ірына Фаміна атрымалі электрапрасы "Moulinex", прызёрам уручылі міксеры і сокавыціскалкі.

## ... і цырульні

**МАЛАДЗЕЧНА. У той жа час гарадская камісія ацэньвала цырульні. Крытэрыі былі розныя: ад захоўвання правоў спажыўцоў да "работы па ўвядзенні новых формаў абслугоўвання". Перамаглі "Архідэя", "Чараўніца" і "Магніт". Яны атрымалі ад гарвыканкома адпаведна кандыцыянер і 2 электрачайнікі.**

Дыпломамі "за адпаведны ўзровень утрымання і аказваемых паслуг" заахвочаныя "Медэя", "Лілея", "Слава", прадпрымальнік **Валянціна Бусяк**, "Салон прыгажосці", а падзяку атрымалі калектывы "Чайкі", "Прэстыжа" і фабрыкі Аляхновічаў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ МАСТАЦТВА

## Творы Чапскага ў Internet

МАЛАДЗЕЧНА. **Віктар Чапскі** выкладаў маляванне ў СШ №2, затым працаваў у дзіцячай мастацкай школе. З 1994 года ён выкладае ў музычным вучылішчы на аддзяленні дэкаратыўна–прыкладнога мастацтва.

Работы графіка і рэзчыка па дрэве экспанаваліся нават у Вільнюсе. А пасля адной з выставак у Маладзечне В. Чапскі атрымаў прапанову размясціць творы і ў Internet. Так напачатку года і з'явілася ў сусветным павуцінні ягоная ўласная электронная старонка. Заходзьце, паглядзець ёсць на што: http://www.chapski.newmail.ru/.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**



Фота Валянціна ГЕРНОВІЧА.

**Маладзечанскі мастак Віктар Чапскі.**

■ КУЛЬТУРА

## Міжнародныя чытанні ў Ракаве

**ВАЛОЖЫН. У панядзелак прайшлі трэція міжнародныя ракаўскія чытанні. Тэма чытанняў: "Поліэтнічная культура заходнебеларускага мястэчка на прыкладзе Ракава".**

Старшынёй аргкамітэта былі выкладчык БДУ **Вячаслаў Рагойша** і сям'я **Янушкевічаў**. Сярод гасцей былі выкладчыкі БДУ, прадстаўнікі беларускай дыяспары Даўгаўпілса, доктар філалогіі з Польшчы **Базыль Белаказовіч**.

Аргкамітэт прадставіў сусветных знакамітасцяў, якія маюць дачыненне да Ракаўшчыны. Адначасова там адкрыўся прыватны музей поліэтнічнай культуры Ракаўшчыны ў доме Вячаслава Рагойшы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ СЕМІНАРЫ

## Гуманітарная дапамога

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак на базе беларускай гімназіі адбыўся сумесны семінар спецыялістаў гарадскога аддзела аховы здароўя і аддзела адукацыі, прысвечаны абароне жыцця, прафілактыцы алкагалізму, наркаманіі, ранніх палавых адносінаў моладзі горада.**

Перад прысутнымі выступілі спецыялісты Варшаўскага цэнтра дапамогі па біялогіі і псіхіятрыі **Гражына Межэнеўская** і **Яна Шыманская**. Яны дзяліліся досведам і падарылі гімназіі і САШМ метадычныя камплекты кніг і відэакасет, прысвечаных згаданым праблемам.

У студзені плануецца 20-гадзінны семінар для работнікаў аддзела адукацыі (сацыяльных педагогаў школ, намеснікаў дырэктараў школ па выхаваўчай рабоце), прысвечаны пытанням прафілактыкі СНІДу.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ДНІ

**10 снежня – Дзень правоў чалавека**

**70 год з дня нараджэння** (1930) **Міколы Арочкі** (Мікалай Мікалаевіч), беларускага паэта і літаратуразнаўцы.



■ ГІСТОРЫЯ ШКОЛЫ



**Цяперашні педагагічны калектыў СШ №8.**

Фота з архіва СШ №8.

## СШ №8: дабрачыннасць – аснова міласэрнасці

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра будаўніцтва ў горадзе новай школы на 750 месцаў на пленарным пасяджэнні настаўнікаў 1963–1964 навучальнага года паведаміў Ф. Рыбчонак. Навіна выклікала бурныя апладысменты педагогаў: большасць школ горада была перагружаная. Толькі месца забудовы – вуліца Касманаўтаў – выклікала сумненне. Здавалася, трэба было б абраць вуліцу Я. Купалы ці Залінейны раён.**



**1965 год. Будаўніцтва СШ №8.**

Фота з архіва СШ №8.

Будаўніцтва пайшло хутка: у лютым 1964 года пабудавалі першы паверх школы, у сакавіку – другі, у маі – трэці, пачалі будаваць актавую і спартыўную залы, майстэрню. Сума па каштарысе, атрыманая на будаўніцтва, – 339201 рубель. Абсталяванне каштавала яшчэ 45000.

1 верасня вучні прыступілі да заняткаў. Чаго каштаваў такі тэмп будаўніцтва, ведаюць толькі першы дырэктар школы **Уладзімір Каралькоў** ды вучні, якія шмат зрабілі на будоўлі сумесна са сваімі настаўнікамі **П. Бяляўскай, А. Марозавай, А. Восіпавай** і іншымі. Усяго ў новую школу прыйшло 4 круглыя выдатнікі, 47 вучняў вучыліся на "добра" і "выдатна", другагоднікаў было 27. Астатнія вучыліся здавальняюча.

З часам змяніўся калектыў, кіраўніцтва. З пагаршэннем эканамічнай сітуацыі больш турбот. **Аляксей Шарамет**, які цяпер выконвае абавязкі дырэктара, заўважыў, што ў школе 1478 вучняў – у 2 разы больш за разлічаную колькасць. 10–11 класы маюць профільны характар навучання (фізіка, руская і беларуская мовы). У школе 13 класаў займаюцца па сістэме развіццёвага навучання.

Разам са звесткамі па гісторыі школы, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце **Людміла Хурсан** расказала пра сённяшні дзень установы, у якім вялікую ролю адыгрываюць дабрачынныя акцыі.

Адна з іх носіць назву "Дзіцячы ордэн міласэрнасці". Падчас яе вучні школы дапамаглі двум сваім хворым на лейкемію таварышам – сабралі сродкі на лячэнне. Другой акцыяй стала дапамога вучням з малазабяспечаных сем'яў і выхаванцам дзіцячага садка №14 (апошнім перадалі сабраныя вучнямі 3 мяшкі цацак і кніжак). Малазабяспечаным дзецям школа дапамагае адзеннем і абуткам.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ФЕСТЫВАЛІ

## «Сярэбраны звон цымбалаў»

**МАЛАДЗЕЧНА. У музычным вучылішчы прайшоў ІІ рэспубліканскі фестываль "Сярэбраны звон цымбалаў", прысвечаны 70–годдзю Дзяржаўнага народнага аркестра імя І. Жыновіча. Арганізатарам выступіла беларуская Асацыяцыя цымбалістаў на чале з прафесарам Яўгенам Гладковым.**

Агляд юных беларускіх цымбалістаў меў выгляд сур'ёзнага рэспубліканскага конкурсу. У склад журы ўваходзілі сталыя музыканты: **Яўген Гладкоў, Таццяна Ялецкая, Рыма Падойніцына, Тамара Лях**. Менавіта ім трэба было вызначыць кола лепшых выканаўцаў для заключнага канцэрта фестывалю, фактычных пераможцаў агляду. Былі прадстаўленыя ўсе рэгіёны Беларусі, гарадскія і сельскія дзіцячыя музычныя школы, музычныя вучылішчы.

Дзякуючы фінансавай падтрымцы Маладзечанскага гарвыканкома і Беларускага саюза музычных дзеячаў, усе ўдзельнікі агляду атрымалі дыпломы, памятныя падарункі (нотныя і літаратурныя выданні, гадзіннікі і інш.).

Толькі навучэнцам Маладзечанскага вучылішча дазволілі выступаць на закрыцці фестывалю як сольна (**Сяргей Сальнік**), так і дуэтам (С. Сальнік і **Юлія Мякінка**). Ад іншых устаноў у канцэрт уключалі адзін твор.

Асобна адзначу цудоўны канцэрт–адкрыццё ІІ рэспубліканскага фестывалю "Сярэбраны звон цымбалаў", у якім выступалі Я. Гладкоў, Т. Ялецкая, а таксама лаўрэаты міжнародных конкурсаў **Святлана Загуменкіна, Юлія Кузьменка, Вераніка Прадзед**, ансамбль цымбалістаў "Лілея" Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Музыкі і інш. А распачаў канцэртную праграму цымбальны аркестр Маладзечанскага музычнага вучылішча. У яго выкананні былі сачыненні В. Кузняцова, сярод якіх асабліва арыгінальны і палымяны быў музычны жарт для ўдарных і аркестра "Чаму ж нам не пець". Артыстызм і абаяльнасць маладога дырыжора **Аляксандра Кавалёва**, яго майстэрства і талент дапамаглі стварыць у канцэртнай зале атмасферу ўзнёсласці, эмацыянальнага ўздыму, тонкага гумару. Сапраўды, ці даводзілася вам калі–небудзь бачыць дырыжора, які спазніўся на ўласнае выступленне? Аркестр пачаў іграць сам, без кіраўніка – усе гэтыя недарэчнасці ўваходзілі ў задумку кампазітара і выглядалі натуральна.

**Анастасія ЦІШЫНА, навучэнка Маладзечанскага музычнага вучылішча.**



### Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, снежань**

5–10 **"Авалон: падводная місія"**, ЗША, фантастычны трылер 13–00, 17–00, 19–00, 21–00

**Зламаная страла**, ЗША, баявік 15–00

12–17 **"Адно вар'яцкае лета"**, ЗША, камедыя 17–00, 21–30

**"Брат–2"**, Расія, баявік, 2 серыі, акрамя асоб да 16 год 14–00, 19–00

**Для дзяцей**

10 **"Зачараваны хлопчык"**, 11–00

Кожную пятніцу, суботу, нядзелю – дыскатэка. Для школьнікаў – 17–00, для моладзі – 20–00.

У кінатэатры працуе бар, камп'ютэрныя гульні

Чакаем вас: вул. Прытыцкага, 19

Тэл. 71592 (каса), 70630 (намеснік дырэктара).

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## У Івянцы непарадкі са страхоўкай

**З Івенца, Мінск. губ. Мінск. пав.**

Амаль ня кожнаму тутэйшаму селяніну вядома, якіе не парадкі творацца ў нашай воласьці. Скажу я толькі аб аднэй рэчы.

Да 1908 года івенчане страхавалі свае будынкі ў воласьці, а з 1908 года выйшаў новы закон, і пазастраховываў іх агент земскаго страхованьня з Мінска. Як страхавала воласць да 1908 года, разумеецца, аддавалі ёй і страхавыя грошы. Наступае трэйці год, як івенчане ня маюць ні якіх справу ў воласьці аб страхоўцы, а тым часам толькі праз 2 гады агледзеліся і выслалі паліціі сьпісок, каб паліцыя сысківала нейкую страхоўку з івенчан на 2000 рублёў... Сьпісок, добры сьпісок, там праўдзівая кніга у двух тамах, бо німа ніводнаго гаспадара, каб там ён ня быў запісаны. Тым часам амаль ня кожны гаспадар мае на руках з воласьці квіткі аб уплаце страхоўкі. Пасыпаліся як град прашэньня. Ёсьць дагадка, што зніштожена квітанціонная кніга. Асталася толькі адна, дый і ў тэй німа нават пачатку нумэрацыі, і яна не прашнурована, як гэта павінна быць. Сьцеражы Ты, Божэ, нас загнаных Беларусаў, ад такіх парадкаў і такой напасьці!..

**Пятрукоў Міхалка.**

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі «Наша Ніва» №50 ад 9 сьнежня 1910 г.**

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

# «Альтанка» запрашае ў госці



Перад табой, чытач, чарговы выпуск нашай маладзёжнай старонкі. Хачу табе пахваліцца: я пазнаёмілася з цікавымі юнакамі і дзяўчатамі.

Сёння пазнаёмлю з некаторымі і вас. Для дзевяцікласніц маладзечанскай СШ №4 **Вольгі Калітнік і Юліі Прывалавай**, гэты дзень незвычайны. У іх сёння – дэбют. Добра папрацавалі сямікласніцы СШ №11 **Нэлі Сарока і Марына Драздоўская**.

Калі ў цябе ёсць вольны час, заходзь да мяне ў госці. Мы збіраемся кожны панядзелак а 16-й гадзіне. Адрас – рэдакцыя "РГ". Буду цябе чакаць!

**Твая «Альтанка».**

■ ПРАБЛЕМА

# Кінуць курыць могуць 5 чалавек са 100

**МАЛАДЗЕЧНА. Якія ўзаемаадносіны мясцовай моладзі з цыгарэтай? Карэспандэнты "Альтанкі" Нэлі Сарока, Марына Драздоўская, Вольга Калітнік і Юлія Прывалава апыталі 54 чалавекі ва ўзросце 13–18 год.**

Ім задавалі 4 пытанні:

Ці спрабавалі вы курыць?

Ці курыце вы цяпер?

Калі вы курыце, ці спрабавалі кінуць?

Ці ведаюць бацькі пра тое, што вы курыце?

Адказы нашых рэспандэнтаў:

**Ці спрабавалі вы курыць?**

Спрабавалі курыць 74% апытаных. Вось што гаварылі некаторыя з іх:

– хацела даведацца, што гэта такое;

– куру, таму што нервуюся;

– у старэйшай кампаніі адчуваю сябе такога ж узросту.

**Ці курыце вы цяпер?**

38% працягваюць курыць і цяпер. Чаму?

– на ўсё забываешся;

– расслабляе;

– дапамагае, калі дрэнны настрой, самаадчуванне;

– не хачу быць "левай" у кампаніі.

**Калі вы курыце, ці спрабавалі кінуць?**

44% тых, хто курыць, спрабавалі кінуць:

– спрабавала кінуць, мне не спадабалася, ды і не трэба, бо гэта шкодна для майго здароўя.

**Ці ведаюць бацькі пра тое, што вы курыце?**

Бацькі кожнага трэцяга курыльшчыка ведаюць пра гэта:

– бацькі нічога сурпаць не маюць;

– гавораць: тваё здароўе, што хочаш, тое і рабі з ім;

– калі даведаліся б, то забілі б!



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Лепш не курыць.

**Каментарый дае ўрач-псіхіятр Сяргей Цвірко:**

– На маіх дадзеных, спрабавалі курыць больш за 80% падлеткаў, і гэтая лічба з часам расце. Пачатак ідзе ад неўладкаванасці ў жыцці, стрэсавых сітуацый. Прывычка набываецца хутка, а калі вы курыце больш за год, то кінуць амаль немагчыма: толькі 5% гэта робяць.

Многія бацькі ведаюць, што іх дзеці кураць. Кожны з іх хоча, каб яны брали для сябе больш добрых жыццёвых прыкладаў, але, на жаль, не заўсёды гэта атрымліваецца.

**Падрыхтавалі Вольга КАЛІТНІК і Юлія ПРЫВАЛАВА, Маладзечна.**

## Экспрэс–апытанне вучняў 10 «Б» класа маладзечанскай СШ №2

# Як вы ставіцеся да рэпетытарства?



**Каця Харытон:**

– Рэпетытары даюць рэальныя веды. Пры паступленні ў ВНУ патрэбна ведаць больш за школьную праграму. Сама наведваю курсы англійскай мовы. Навучанне абыходзіцца ў 22 долары штомесячна.

Хаця можна паступіць і без рэпетытараў. Многае залежыць ад шанцавання на экзаменах.

**Лёша Грыгарэнка:**

– Буду паступаць у міліцэйскую акадэмію. Мой дзядзька там вучыўся, ён ведае, што і як трэба туды здаваць. Думаю, што ён дапаможа, таму я не буду звяртацца да рэпетытараў.





**Вадзім Канапелька:**

– Рэпетытараў для паступлення ў політэхнічную акадэмію наймаць не буду, не хапае матэрыяльных сродкаў. Калі грошай было б дастаткова, то не ведаю, ці карыстаўся б я іхнімі паслугамі. Абмяжуюся падрыхтоўчымі курсамі.



**Таня Купрыян:**

– Цяпер ёсць шмат вучэбнай літаратуры, таму, калі чалавеку на самой справе трэба паступіць, ён можа гэта зрабіць. Ды і на рэпетытараў грошай не кожнаму хопіць. У крайнім выпадку можна папрасіць бацькоў, каб яны запісалі на падрыхтоўчыя курсы.

Пасля 10 класаў буду паступаць у ваеннае вучылішча, а калі не атрымаецца, – у дзяржаўны каледж банкаўскай справы.

**Іра Юркоіць:**

Усё залежыць ад настаўнікаў у школе. Ёсць тыя, хто дае вучням усё патрэбнае. Тады можна абысціся без рэпетытара. Ёсць настаўнікі, якія горш ставяцца да сваёй работы. У гэтым выпадку рэпетытар неабходны.

Хутчэй за ўсё, я буду займацца з рэпетытарам па англійскай мове.





**Наташа Тумель:**

– Школьных ведаў недастаткова, каб паступіць. У рэпетытараў ёсць інстытуцыя праграмы, яны працуюць індывідуальна з кожным, у залежнасці ад яго ведаў і здольнасцей. А калі ў класе 25 чалавек, то паспрабуй займацца індывідуальна з кожным!

Буду ездзіць на падрыхтоўчыя курсы і рыхтавацца самастойна.



**Алеся Стасіловіч:**

– Настаўнікаў можна наймаць у тым выпадку, калі чалавек прапусціў шмат заняткаў, ці калі ён не можа ўдзяліць вучобе дастаткова часу. Напрыклад, вучню–спартсмену цяжка паступіць без рэпетытараў.

Да экзаменаў буду рыхтавацца самастойна. Можа, хопіць сіл.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ МУЖЧЫНСКІЯ ІНТАРЭСЫ

# Запрашаць ці не?

**Чаму большасць (а, можа, і ўсе) юнак, калі запрашаюць дзяўчат на танец, хваляюцца?**

Некаторыя лічаць, што ў іх не атрымаецца танцаваць так, як трэба. Смех гэта ўсё! Хіба дзяўчаты такія спецыялісты? Яны ўжо будуць дзякаваць у думках, што вы іх запрасілі. Хтосьці баіцца, што яму няма чаго сказаць, бо лічыць, што ў танцы абавязкова трэба размаўляць, знаёміцца і г.д. Калі з кожнай сваёй "танцоркай" будзеш знаёміцца, размаўляць ці запісваць нумар тэлефона – язык адваліцца або ў школу сышткаў не хопіць. Існуюць і такія "кадры", якія ўвогуле не ўяўляюць, як будуць трымаць жаночую руку і адчуваць дыханне дзяўчыны зусім побач. Нічога, хутка прывыкнеце, будзе нават прыемна.

Галоўная прычына – нам могуць адмовіць. "Я ж такі прыгожы-распрыгожы, добры, цудоўны, а яна мне кажа, што не танцуе". Куды тады дзець вочы ад сяброў, якія смяюцца над табой? Усе хваляванні знікнуць пасля трох заходаў. Тады ты станеш каралём над сабой, але танцаваць так і не ўмееш. Гэта лёгка паправіць. Галоўнае – жаданне. І наперад!

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ, Беразінскае.**

■ ШКОЛА АБІТУРЫЕНТА

# Як паступіць на журфак?



**Мы адкрываем новую рубрыку, дзе будзем расказваць пра тое, як рыхтаваліся да экзаменаў тыя, хто паступіў вучыцца далей.**

Сёння мы звяртаемся да тых, хто марыць паступіць на факультэт журналістыкі БДУ.

Пачынай ужо цяпер вучыць прадметы, па якіх будзеш здаваць экзамены.

**"Чалавек і грамадства"**. На першы погляд, гэта такі прадмет: гаворыш, гаворыш – пяць. Але калі капнуць глыбей, можна "закапацца" у адных толькі тэрмінах. Такім чынам, бярэш кніжку (лепш, Рашэтнікава) і вучыш, чытаеш, глядзіш, выціраеш пыл – залежыць ад жадання паступіць, а можа, і ад здольнасцяў.

**Замежная мова.** Вучы словы (хоць на экзамене дадуць слоўнікі), але трэба яшчэ ўмець размаўляць. Вучы граматыку, бо ад яе нікуды не дзенешся, ну, а тэмы, я спадзяюся, ты вывучыш у школе.

**Сачыненне** ёсць сачыненне. Умееш разважаць – напішаш. Перад экзаменам выпішы на аркуш цытаты розных пісьменнікаў на розныя тэмы, вывучы іх. Там будзе відаць...

Да **творчага тэсціравання** можна падрыхтавацца за некалькі дзён. На прозвішчы журналістаў звяртай увагу ўжо цяпер, усебакова развівайся і пішы ў газеты, каб былі публікацыі. Пасля гэтага можаш лічыць, што тэсціраванне ў цябе ў кішэні (максімальная адзнака – два балы).

Не трэба асабліва нервавацца ў чаканні вынікаў. Школьнікам з сельскай мясцовасці дадуць дадаткова адзін бал. Напрыклад, у гэтым годзе дастаткова было атрымаць дзве "тройкі" і дзве "пяцёркі", 1,5 на тэсціраванні – і ты студэнт.

Завочная форма не вельмі адрозніваецца ад вочнай: тыя ж прадметы і экзамены. Тут многае вырашае наяўнасць працоўнага стажу па спецыяльнасці. Калі ты працуеш не менш за 6 месяцаў, лічы сябе студэнтам. Табе дастаткова атрымаць "тройкі". Калі не, лепш паступай на дзённае, там прахадны бал ніжэйшы. Штогод для такіх студэнтаў пакідаюць 5–7 месцаў, а прэтэндэнтаў на іх не менш за 50 чалавек.

Калі цябе цікавіць, як паступіць у тэхнікум ці вучылішча і набыць рабочую прафесію, пішы. Твой ліст стане працягам нашай рубрыкі.

**Студэнты БДУ Мікалай ХАДАСЕВІЧ, Беразінскае, і Юрый КАРПІЦКІ, Маладзечна.**

# Макоўскія прымераліся да «Металурга»

**06.12. Металург – All stars (Маладзечна) 10:4 (3:1)**

**Склад All stars**: Бахур; Рысік, Дарахові ч, Галубко, Татун; Касцюкевіч, Мілеўскі, М.Макоўскі, Ул.Макоўскі; С.Карыцька, Ул.Карыцька, Макрыцкі.

**Галы**: 1:0 Кузняцоў, 1:1 Галубко, 2:1 Кузняцоў, 3:1 Кузняцоў, 3:2 Ул. Карыцька – пен., 4:2 А.Макей, 5:2 Гарнастаеў, 6:2 Янель, 7:2 Кузняцоў, 8:2 Сіткевіч, 8:3 Ул.Карыцька, 8:4 Татун, 9:4 Гарнастаеў, 10:4 Сіткевіч.

Хаця матч (2 таймы па 35 хвілін) быў і таварыскі, цікава ацаніць гульню маладзечанскіх "легіянераў вялікага футбола", якія самі сябе прадставілі як All stars. Калі яны былі больш-менш свежыя, гульня з "Металургам" вялася на роўных. "Гаспадароў" некалькі разоў выручыў **Кіркіж**. Хаця на гульні All stars сказалася нязвыклае для многіх пакрыццё залы ЗМК.

Па персаналіях. Відаць, што **Мілеўскі** значна дадаў у атлетызме. На размінцы ён укалачваў мяч у "дзяваткі" – відовішча ўражвала. Але ў гульні кульгала рэалізацыя – не рэалізаваў не менш за 5-6 галявых момантаў.

**Уладзіміру Карыцьку** можна смела ўручаць "Кубак прагрэса". Разам з хуткасцю і добрай тэхнікай ён валодае ўбойным ударам. Два свае галы ён забіў са "стандартаў": першы – з пенальці, які прызначылі за яго знос; другі – са штрафнога, прабіўшы і сценку, і варатара.

Браты **Макоўскія** ўразілі выдатным узаемадзеяннем. Але на пляцоўцы не яны былі лідэрамі All stars. Хаця ФК "Маладзечна", пры належнай падрыхтоўцы, браты ўзмацнілі б адназначна.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Сафонаў меў 2 такія выпадкі

**02.12 Сімург (Мінск) – Металург 0:0**

**Суддзі** – Ромін, Дубіцкі (абодва – Мінск).

**Склад**: Кіркіж; Агейчык, Кузняцоў, Максімаў, Сіткевіч, Снятко, Янель; Гарнастаеў, Гружэўскі, Казяк, Шаўчэнка; Бахур.

Гульня атрымалася нервовая, тузаная і малазмястоўная. Мяч не жадаў ісці ні ў якія вароты. Нулі на табло ў матчах чэмпіянату краіны апошні раз заставаліся, здаецца, гады тры таму. А **Сяргей Сафонаў** прыгадаў, што ў яго асабістай практыцы такое неяк адзін раз было.

Ініцыятывай валодалі мінчане, разоў пяць **Кіркіжу** давялося дэманстраваць узровень лепшага вартаўніка варот краіны і яшчэ столькі ж выратоўваць у больш лёгкіх сітуацыях. У першым тайме стрэл **Максімава** галкіпер "Сімурга" **Ачапоўскі** парыраваў перад сабою, але на дабіванні маладзечанцы схібілі. У другім тайме аднойчы не хапіла дакладнага апошняга паса на далёкую штангу свабоднаму партнёру.

За 12 секунд да фінальнага свістка гаспадары мелі права на ўвод мяча ў гульню, узялі тайм-аўт, паспелі разыграць камбінацыю, завяршылі яе ўдарам галавой па варотах. Кіркіж зноў не схібіў і на гэтым завяршыўся матч, у якім мінчане мелі больш падстаў для перамогі.

З усяе сілы падтрымлівалі маладзечанцаў прадстаўнікі мінскага ВСОШ-21 – з калектывам, які выступае ў фан-лізе і ў першай лізе чэмпіянату краіны, "Металург" заключыў фарм-клубаўскі дагавор.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

Дырэктар МТПЗ **Генадзь Гаўрыс** гаворыць, што "з падачы" С. Сафонава "Металург" мае новага спонсара – кампанію "JP". А галоўны трэнер сцвярджае, што перспектыўныя маладзечанскія і беразінскія гульцы будуць трэніравацца толькі ў другім фарм–клубе. Такім чынам, збываецца змрочны прагноз "РГ" пра разбурэнне маладзечанскага міні–футбола?

**На гэтым тыдні гуляюць**

**10.12 14-00 Металург – МАПІД (Мінск)**
+1=0-1 6-6. У мінулым чэмпіянаце 2:5 на выездзе і 4:1 дома.

**8-10.12, Маладзечна, палітэхнікум**
Фінальны турнір чэмпіянату Мінскай вобласці па валейболе сярод жанчын: Маладзечна, Старадарожскі р–н, Пухавіцкі р–н і Салігорск. Пачатак у пятніцу і суботу – 15.00, у нядзелю – 9.30.

■ БАСКЕТБОЛ



Цікава: можа, і не апусціцца на пляцоўку мяч? Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

# У фінале – Маладзечна і Валожын

МАЛАДЗЕЧНА. У зале ўлікова–планавага тэхнікума прайшоў абласны паўфінал жаночага чэмпіянату – Маладзечна, Валожын, Жодзіна і Мінскі раён. Год таму каманды, акрамя Жодзіна, гулялі тут у аналагічным турніры. Тады маладзечанкі былі мацнейшыя – яны і сталі чэмпіёнкамі вобласці. Пры адсутнасці другой каманды вобласці – горада Вілейкі – валожынкі лічыліся фаварытамі на другі радок у табліцы, бо за Жодзіна гулялі маладыя дзяўчаты, а за Мінскі раён – зусім школьніцы (летась яны саступілі ўсім з розніцай мячоў 77:237; не прынесла тады радасці мінчанкам і гульня з маладзечанкамі – 16:72).

У першы ж дзень ледзь не адбылася сенсацыя. Пасля першай чвэрці гульні Маладзечна – Мінскі раён лік быў 6:11. Прычым, ці не кожнае другое сутыкненне гульца каманды Мінскага раёна з дарослай саперніцай заканчвалася фолам. Адных штрафных гаспадары прабілі каля двух дзесяткаў, а госці ўпершыню падышлі да лініі ў сярэдзіне чацвертай чвэрці, калі зыход матча быў вызначаны не на іхнюю карысць – 42:26. Валожын лёгка перамог Жодзіна – 73:33.

У другі дзень больш моцныя каманды абмяняліся сапернікамі. Валожын–Мінскі раён 54:27; Маладзечна–Жодзіна 46:31. І Маладзечна, і Валожын датэрмінова выйшлі ў фінал.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ШАХМАТЫ

# Першы рэгіянальны турнір

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 снежня ў шахматным клубе "Папараць" прайшоў першы рэгіянальны турнір па шахматах. Па задуме арганізатараў турніру, інфармацыйным спонсарам якога з'яўляецца "Рэгіянальная газета", спаборніцтва павінна было стаць злётам шахматыстаў рэгіёна. Натуральна, не варта было спадзявацца на гасцей з усіх сямі раёнаў, але 22 чалавекі на старце – не дасягненне, але і не блін камяком.**

На турнір высадзіўся вялікі "дэсант" са Смаргоні – 9 чалавек. Склад суседзяў быў рознаўзроставы, таму не такі ўнушальны па кваліфікацыйным складзе, але вельмі дружны – напэўна, таму, што ўзначальвала шахматыстаў трэнер–арганізатар **Наталля Гарбаценка**.

Выставілі каманду і віляйчане – 3 чалавекі, прыехаў з Валожына **Андрэй Кашкан**. Панервавалі арганізатараў маладзечанцы, якія толькі на "заходзе сонейка" арганізавалі яўку.

Многія спазніліся на старт і вымушана сталі актыўнымі гледачамі. Барацьба была вострая і бескампрамісная, але, усё ж, скончылася на карысць больш моцных па складзе, маральным духу і падрыхтоўцы. Маладзечанцы былі прадстаўленыя, у асноўным, моцнымі першаразраднікамі, ды і практыкі ў іх паболей, што і сказалася ў канцоўцы турніру. І А. Кашкан, і Н. Гарбаценка да пятага тура былі сярод лідэраў, але пройгрышы ў апошніх дзвюх сустрэчах адкінулі іх з ліку прызёраў.

Будзем спадзявацца на рост моладзі са Смаргоні. Бо **Юры Рудому** толькі 10, а ён ужо чэмпіён Гродзенскай вобласці, **Сашу і Алесі Растовым** 15 і 13 год, а яны выглядалі нядрэнна ў моцнай кампаніі.

Першае месца заканамерна заваяваў моцны першаразраднік з Маладзечна **Алег Дылеўскі**. Хаця, калі б у адной з партый ягоны сапернік **Андрэй Чаеўскі** не "зяўнуў" ферзя, то турнірныя вынікі можна было б перапісаць і па–іншым. Для Андрэя гэта быў удар, і ён не змог настроіцца на барацьбу, у выніку – "выпакутаванае" чацвертае месца, а Алег, насупраць, моцна правёў і апошнюю частку турніру.

Наталля Гарбаценка ў пятым туры нанесла паражэнне **Міхаілу Карабухіну** – мужчына, падалося, быў на мяжы зрыву (гэта была яго другая "баранка" запар), але змог сабрацца, выйграць дзве партыі і заняць па каэфіцыенце II месца.

**Уладзімір Генк** гуляў надзейна, роўна набіраў ачкі, і ягонае трэцяе месца – заканамернае.

Адзначу фенаменальную здольнасць шахматаў аб'ядноўваць вакол сябе гульцоў самых палярных узростаў. Дзе яшчэ можна ўбачыць адзінаборства 70-гадовага з 10-гадовым? У рэгіянальным турніры гэта проста: **Макс Сіка**, якому пайшоў 71-ы, і Юра Рудой, які адзначыў сваю 10-ю восень, "скрыжавалі шпагі". Перамаглі досвед і мудрасць.

Удзельнікі выказаліся, што такія спаборніцтвы праводзіць трэба і надалей, арганізатары паабяцалі праводзіць падобныя сустрэчы штомесяц. Такім чынам, наступная – 5 студзеня, у пятніцу, а 17–й гадзіне. Запрашаем у Маладзечна, на вул. Забэйды–Суміцкага, 2.

З прапановамі, пажаданнямі звяртайцеся ў "Рэгіянальную газету". Сюды ж могуць звяртацца і патэнцыяльныя спонсары.

**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар FIDE.**

## Табло

■ БАСКЕТБОЛ

Чэмпіянат Гродзенскай вобласці сярод жанчын. 1-3 снежня. Гродна.

| Каманды | Вынікі | Ачкі |
|---|---|---|
| Смаргонь | #### | 6 |
| Гродна | 74:63 | 5 |
| Ліда | 80:61 | 4 |
| Масты | 76:51 | 3 |

Пад кіраўніцтвам **Валерыя Юрчанкі** перамог дабіваліся трэнеры смаргонскай ДЮСШ-1, якую ён узначальвае, і былыя выхаванкі гэтай школы, што цяпер навучаюцца ў гродзенскім універсітэце. У прыватнасці, добра гулялі **Вольга Савоська, Вольга Крэнь, Наталля Сачук**.

■ ВАЛЕЙБОЛ

Паўфінал чэмпіянату Мінскай вобласці сярод мужчын. 1-3 снежня. Маладзечна.

1. Беразіно. 2. Маладзечна. 3. Мядзельскі раён. 4. Жодзіна.

За каманду маладзечанцаў, якая заваявала права выступаць на фінальным турніры ў Нясвіжы 15-17 снежня, адказваў **Уладзімір Мякшыла**. У яе складзе вылучаліся **Арцём Балабан, Андрэй Цар, Аляксандр Сомаў**. Супрацьстаяць у фінале нашым землякам будуць гаспадары, салігорцы і беразінцы.

■ ВАЛЕЙБОЛ

Фінал чэмпіянату Мінскай вобласці сярод жанчын пройдзе не ў Мар'інай Горцы, а ў Маладзечне 8-10 снежня.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС

**МЯДЗЕЛ. Каманда Крывіцкай дапаможнай школы–інтэрната прадстаўляла Мінскую вобласць на рэспубліканскіх спаборніцтвах па настольным тэнісе сярод школ для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.**

У складзе былі па тры хлопчыкі і дзяўчынкі. Каманда заняла першае месца. А трэніраваў дзяцей настаўнік фізкультуры **Яўген Ніжнік**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Лепшы спартсмен рэгіёна

«РГ» абавязкова прапануе сваю версію спісу лепшых спартсменаў рэгіёна. Паралельна прапануем чытачам далучыцца і даслаць у рэдакцыю свае варыянты. Пераможца чытацкага конкурсу атрымае права задаць свайму абранніку пытанне і займее ягоны аўтограф.

**Вы хочаце навучыцца плаваць?**

Хочаце, каб умелі плаваць вашы дзеці? Хочаце заўсёды быць бадзёрымі і здаровымі? Запрашаем у гарадскі басейн. **Сеансы аздараўленчага плавання:** штодзённа ў 18–05 і 18–50, панядзелак, аўторак і чацвер – у 19–35, субота – у 17–15.

 



■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Пра агранома, семінар і цукровыя буракі

У 60–я гады ў Беларусі пачалі будаваць цукровыя заводы. Каб забяспечыць іх сыравінай, патрэбна было вырошчваць цукровыя буракі тут. Гэтая кампанія нечым нагадвала "кукурузную". Кожны калгас павінен быў абавязкова іх садзіць, аддаваць пад іх лепшую зямлю. Згодна з планам, які старшыням даводзіў райком партыі. А з ім не паспрачаешся.

І вось у адзін з калгасаў прыехала камісія з абкома партыі, каб на месцах прасачыць за выкананнем "цукровага" загаду. Але той загад у калгас прыйшоў некалькі дзён таму, і старшыня, калі прачытаў яго, адсунуў паперку ўбок: садзіць буракі не было чым, і аддаваць пад іх лепшую зямлю ён не збіраўся. Добра, хоць кармавыя буракі ладныя. І гусценькія, і прыгожанькія. Як свае.

Таму, калі з раёна пратэлефанавалі пра камісію, было вырашана весці яе на поле з кармавымі буракамі. Брыгадзір калгаса доўга не згаджаўся на ролю павадыра, бо калі махлярства адкрыецца, палятуць галовы. Але старшыня паабяцаў яму грашовую прэмію за адвагу і ўзяць адказнасць на сябе, калі што. І брыгадзір паехаў суправаджаць.

Камісія знайшла "цукровыя" буракі найлепшымі ў вобласці. Толькі сталічны аграном, якога прывезлі з сабою партыйцы, чамусьці пасля звычайна кепскага настрою пачаў пасміхацца сабе ў вусы. Але на гэта ўвагі ніхто не звярнуў. Камісія паехала задаволеная.

І ўсё было б добра, каб не патэлефанавалі потым з абкома з прапановай наладзіць у гэтым калгасе семінар "па пытаннях распаўсюджвання досведу вырошчвання цукровых буракоў". Старшыня калгаса ледзь ад яго адмовіўся. А я правёў бы.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Шаноўныя чытачы "РГ" і аматары схадзіць бясплатна ў кіно!

Марк Твен варты таго, каб чытаць яго часцей. Адбіваецца, відаць, уплыў школьнай адукацыі, згодна з якой, акрамя Пушкіна з Дастаеўскім ды Коласа з Купалам, літаратараў у свеце няма. Хаця мой знаёмы, прыкладам, захапляецца Стывенам Кінгам (прычым, чытае ў арыгінале), яшчэ адзін ажно 20 год таму лепшым лічыў Алеся Разанава (падыміце руку, хто чуў такое імя?).

А Марк Твен адзінай сапраўднай зброяй лічыў смех. Згадзіцеся, гэта так. Прыгадваецца кідкая назва матэрыялу з газеты "Знамя юности" (была такая, многія помняць). Гаворка ішла пра знакаміты лёзненскі "замах" на будучага ўсенародна абранага. "Несчастный случай под Лиозно: Лукашенко остался жив".

Пераможцаў на гэты раз не было. Наступнае пытанне.

Пра Вільгельма Тэля чулі, мусіць, усе. Быў такі "варашылаўскі стралок", які стралой з лука збіваў яблык з галавы сябрука. А ў ЗША мне расказвалі гісторыю пра нейкага Піта Руфа. Той, хаця і не з лука, але збівае яблык з самога сябе. Як у яго гэта атрымліваецца?

Пераможца атрымае запрашальны білет на 2 асобы на любы снежаньскі кінасеанс у маладзечанскім кінатэатры "Радзіма". Адказы прымаюцца па маладзечанскім тэлефоне 69667 па сераду (13 снежня) уключна або пісьмова (паштовы штэмпель не пазней за 10 снежня).

**Лявон ІНЕТНЫ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Кальрабі тушаная

**500 г кальрабі, 2 лыжкі мукі, 1 шклянка смятаны, 1 цыбуліна, 1 лыжка тамату–пюрэ, 2 лыжкі алею.**

Кальрабі абабраць, парэзаць невялікімі скрылькамі, пасаліць, укачаць у муцэ і крыху абсмажыць у алеі. Пасля кальрабі пакласці ў каструлю, дадаць крыху перцу, карыцы і ўліць смятану, змяшаную з таматам–пюрэ. Тушыць кальрабі пад накрыўкай на слабым агні 40 хвілін, пры падачы на стол пасыпаць зялянінай пятрушкі ці кропу. Кальрабі можна выкарыстоўваць як гарнір, а таксама як асобную страву.

## Булачкі-рагалікі

**200 г маргарыну, 3 шклянкі мукі, 200 г смятаны, 1 лыжка воцату, цукровая пудра, мармелад.**

Муку пасекчы з маргарынам. Дадаць смятаны, соды на кончыку нажа, воцат. Ваніль па смаку. Добра перамяшаць. Раздзяліць на 5 частак і паставіць у холад на 30 хвілін. Праз паўгадзіны кожную булачку раскатаць і раздзяліць на 8 частак. На кожны трохвугольнічак пакласці кавалачак мармеладу. Закруціць і выпякаць. Пасыпаць пудрай.

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем **Алену Робертаўну Кашкевіч** з днём нараджэння! Няхай спадарожнічае табе ў жыцці толькі самае светлае і добрае. *Пляменнікі Уладзімір і Святлана.*

**Алене Робертаўне Кашкевіч.** Дарагая мамачка, з днём нараджэння! Шчасця, здароўя, душэўнага спакою, даўгалецця, поспехаў, любімая. *Дачка Марына.*

З днём нараджэння, **Алена Робертаўна Кашкевіч**! Мы вельмі любім цябе і ты нам патрэбная. Дзякуй за карысныя парады! *Мы.*

Любімая мамачка і жоначка **Галя Іванчык**! Віншуем з днём нараджэння! Здароўя, доўгіх год жыцця. *Сын Саша, муж.*

Віншую любімую палову **Зўку**! Ты ствараеш атмасферу ўтульнасці, цяпла, спакою, радасці. Чаго больш? *З удзячнасцю Юрык.*

**Галя Іванчык**! Віншуем з днём нараджэння! Жадаем вечнай маладосці, кахання, быць вясёлай і не сумаваць. *Кум і кума.*

**Ігнату Вікенцьевічу Пратасовічу**

Дарагі, любімы наш муж,
татачка, зяць!
Прымі ад нас самыя шчырыя
віншаванні з днём нараджэння.

Для нас нет в мире человека
Дороже и родней тебя.
Так пусть нас согревают долгие года
Твои любовь, забота, доброта.

*З павагай і любоўю жонка, дзеці, цешча.*

Віншуем **Ірачку Драбо** з 18-годдзем! Жадаем шчасця, вялікага кахання, шмат усмешак. *Бацькі, брат Алег.*

**Настачка**! Віншуем з днём нараджэння! Жадаем табе кахання, шчасця, поспехаў у вучобе. *Сяброўкі.*



# ЗНАЁМСТВЫ

42/181/81. Пазнаёмлюся з адзінокай жанчынай для сумеснага жыцця. Маладзечна, галоўпаштамт, п/п IV-ВН №532143.

Інвалід, жыллём забяспечаны, жадае пазнаёміцца з добрай, спакойнай дзяўчынай для сумеснага жыцця. Маладзечна-6, п/п 519590.

Пазнаёмлюся з мужчынам для сумеснага жыцця, без шк/зв., з жыллём у Маладзечне. Пра сябе: 42/162/60, добрая, разумная, вясёлая, в/а. Маладзечна-6, XI-ВН №725131.

Пазнаёмлюся з мужчынам 48-53 год, прыстойным, без шк/зв., інтэлігентным. Маладзечна-6, п/п МС0243675.

Пазнаёмлюся з адзінокім мужчынам 48-55 год для сумеснага жыцця. Маладзечна-4, МС0224361.

Алег, 44/170/70, Леў, разведзены, жыву ў інтэрнаце, ёсць дача. Шукаю адзінокую жанчыну (38-40) з кватэрай, добрую, акуратную. Маладзечна-4, п/п МС0658262.

Пазнаёмлюся з адзінокім мужчынам. Пра сябе: 41/170/85, Леў, Кабан, фарбаваная бландзінка, разведзеная, без ж/п, адукацыя с/спец. 222310, Маладзечна-7, п/п МС0240658.

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Віншаванкі звыш за 15 слоў платныя. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон 49**

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

**9 снежня** – восеньскі (ці зімовы) **Юр'я**. Юрай і Мікола святкуюцца двойчы ў годзе: увесну і ўзімку. Гэтыя святыя разам пастаўленыя і ў шматлікіх казках.

***"Вясною Георгі і Мікалай – з кормам, зімою – з возам", "Юрай масціць, Мікола гваздзіць". "Колькі на асенняга Юр'я снегу, столькі на вясенняга травы".***

**13 снежня – дзень святога Андрэя.**

**14 снежня – прарок Навум.** ***"Навум наставіць на вум".***

***Мала снегу на голлі – мала будзе ў лесе летам грыбоў і ягад.***

***Шэрань на бярозах – на мароз, туман – да адлігі.***

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Уклад у барацьбу з п'янствам

Знаёмы міліцэйскі следчы (ён ужо на пенсіі) расказваў. Сцвярджае, што было гэта ў адным з райцэнтраў рэгіёна ў канцы 80-х – пачатку 90-х. Героі аповяду падраслі, таму канкрэтнае месца ён назваць адмовіўся.

Як памятаеце, якраз тады дасягнула апагею "барацьба з п'янствам". Гарэлка была на вельмі строгім уліку, прадавалі яе па талонах. Зрэшты, як і шкарпэткі з мылам. А тут у адным з вінных магазінаў з падсобкі штоноч знікала са скрынак па некалькі бутэлек гарэлкі. Пры гэтым дзверы ў падсобку былі зачыненыя і апячатаныя. Заставалася толькі маленькая вентыляцыйная адтуліна, якая выходзіла на вуліцу і была прыкрытая сціплымі кратамі. Аднак паколькі яна была настолькі малая, што чалавек праз яе трапіць у падсобку не мог, то на яе не звярталі ўвагу.

Калі страты ад гэтых крадзяжоў сталі адчувальныя, звярнуліся ў міліцыю. Тыя, у сваю чаргу, вырашылі наладзіць засаду. У першы ж вечар злодзей трапіў у пастку. Гэта быў шасцігадовы хлапеча, які з цяжкасцю прасоўваўся праз тое акно. На вуліцы яго чакалі яшчэ некалькі такіх самых "шкетаў".

Натуральна, перш–наперш наш следчы выказаў меркаванне, што на крадзяжы малых пасылалі іхнія бацькі. Свядомасць малявала тыповую "цяжкую" сям'ю, дзе бацька з маці "не прасыхаюць", а гаротных дзяцей пагрозамі прымушаюць красці ім гарэлку.

Сапраўднасць аказалася больш "закручаная", многія, калі не ўсе, работнікі міліцыі былі шакіраваныя. Змесціва бутэлек дзеці... вылівалі (трэцяя літара "л"!), бо каштоўнасці гарэлкі не ведалі, пустую тару здавалі, а на атрыманыя грошы куплялі марожанае ды хадзілі ў кіно.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**



**Паважаныя маладзечанцы!**
**Кааліцыя дэмакратычных сіл горада Маладзечна запрашае вас на санкцыянаваны ўладамі мітынг з нагоды 52-й гадавіны прыняцця Дэкларацыі правоў чалавека, які адбудзецца ў нядзелю, 10 снежня, на круглай пляцоўцы ў гарпарку. Пачатак а 15-й гадзіне.**
***Ініцыятыўная група.***



 

